# Голас Радзімы

№ 2 (2092)
12 студзеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**У адным з самых маляўнічых месцаў Беларусі, на беразе цудоўнага возера Нарач, у сасновым бары, знаходзіцца камфартабельны піянерскі лагер «Зубраня». Сюды напярэдадні Новага года прыехалі амаль 250 армянскіх дзяцей і жанчын, эвакуіраваных з раёнаў, зруйнаваных землетрасеннем.**

**Сардэчна сустрэлі іх у Беларусі. Работнікі лагера імкнуцца зрабіць усё магчымае, каб людзі, якія перажылі жудасную трагедыю, адчувалі сябе на новым месцы спакойна і ўтульна. У лагеры стараюцца без прамаруджвання вырашаць усе праблемы. Наладжана медыцынскае абслугоўванне, харчаванне, усіх забяспечылі цёплай вопраткай. Дзеці будуць вучыцца ў сучаснай школе з выдатнымі класамі і кабінетамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: пачаліся заняткі ў школе; прагулка ў лес; урач-педыятр Мінскай абласной клінічнай бальніцы Таццяна КАВАЛЕЎСКАЯ з чатырохгадовай Эляй МАРУКЯН.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**



У ЦК КПСС

## ПРЫНЯТА ПАСТАНОВА

Цэнтральны камітэт КПСС прыняў пастанову «Аб дадатковых мерах па аднаўленню справядлівасці ў адносінах ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў».

У гэтай пастанове адзначаецца, што дакументальныя даныя, вопыт рэабілітацыі, накоплены і непасрэдна пасля XX і XXII з'ездаў КПСС, і ў самы апошні час, неаспрэчна сведчаць: у перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў мела месца практыка масавых рэпрэсій і самавольства. Верхам беззаконнасці сталі спецыяльна створаныя несудовыя органы — так званыя «тройкі», «асобыя нарады», а таксама практыка складання і зацвярджэння спісаў рэпрэсіруемых.

Падобная практыка абярнулася трагічнымі вынікамі для соцень тысяч савецкіх людзей, аказала згубнае ўздзеянне на сацыяльна-эканамічнае развіццё краіны, усталёўвала ў свядомасці грэбаванне нормамі закона і чалавечага жыцця. Прагрэсу савецкага грамадства, справе сацыялізму і аўтарытэту партыі быў нанесены сур'ёзны ўрон.

Аднаўленне гістарычнай, юрыдычнай справядлівасці набыло цяпер вялікае палітычнае значэнне. Ад яго ў многім залежыць наш рух па шляху фарміравання сацыялістычнай прававой дзяржавы, развіццё грамадскай свядомасці. Поўнай рэабілітацыі ўсіх нявінна рэпрэсіраваных, увекавечання іх памяці чакаюць грамадскасць, сваякі і блізкія пацярпеўшых.

Цэнтральны Камітэт КПСС пастанавіў унесці на разгляд Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР прапанову — заканадаўчым актам адмяніць пазасудовыя рашэнні, вынесеныя ў перыяд 30—40-х і пачатку 50-х гадоў «тройкамі», «асобымі нарадамі», што дзейнічалі ў той час. Лічыць усіх грамадзян, якія былі рэпрэсіраваны рашэннямі ўказаных органаў, рэабілітаванымі.

Разам з тым прызнаць, што гэтая мера не распаўсюджваецца на здраднікаў Радзімы і карнікаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны, нацысцкіх злачынцаў, удзельнікаў нацыяналістычных бандфарміраванняў і іх памагатых, на работнікаў, якія займаліся фальсіфікацыяй крымінальных спраў, а таксама на асоб, якія здзейснілі наўмысныя забойствы і іншыя крымінальныя злачынствы.

НА МІЖНАРОДНЫ РЫНАК

## МАДЭЛЬ ЭКСТРА-КЛАСА

Экстра-клас! Так ацанілі новую мадэль шліфавальнага станка, распрацаваную спецыялістамі Віцебска і аршанскага завода «Чырвоны барацьбіт», эксперты амерыканскіх і канадскіх фірм. У цэхах прадпрыемства пачалі выпуск гэтага абсталявання для экспартных мэт.

Выйсці на міжнародны рынак памаглі аршанцам калегі з заходнегерманскай фірмы «Эльбшліф». Ужо цэлае дзесяцігоддзе працягваецца плённае супрацоўніцтва двух прадпрыемстваў.

СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ІНСТЫТУТЫ

## ВОПЫТ СЯБРОЎ

У Інстытуце падрыхтоўкі настаўнікаў у Беластоку нядаўна пабывала дэлегацыя Гродзенскага педагагічнага інстытута. Абедзве ВНУ супрацоўнічаюць некалькі гадоў. Мэта цяперашняга візіту — азнаямленне з беластоцкай мадэллю падрыхтоўкі выкладчыкаў польскай мовы.

Беларускім партнёрам гэта неабходна ў сувязі з тым, што ў некалькіх ВНУ, у прыватнасці ў Гродне, створаны факультэты польскай мовы.

У ходзе візіту падпісана пагадненне паміж інстытутамі, у якім падрабязна вызначаюцца перспектывы супрацоўніцтва на бліжэйшыя гады. Прадугледжаны, у прыватнасці, канікулярныя метадычныя курсы для груп настаўнікаў, а таксама навуковыя стажыроўкі гродзенскіх выкладчыкаў на працягу 1-3 месяцаў. Будзе ажыццяўляцца абмен падручнікамі і дапаможнікамі.

АЎТАМАБІЛЕБУДАВАННЕ

## «БелАЗы» ЕДУЦЬ ЗА МЯЖУ

Упэўнена заваёўвае міжнародны рынак прадукцыя беларускіх аўтамабілебудаўнікоў з Жодзіна. Магутныя «БелАЗы» экспартуюцца ў многія краіны свету.

Адной з першых, з якой былі наладжаны дзелавыя кантакты, стала Індыя. Летась сюды было адпраўлена больш як 40 «БелАЗаў» грузападымальнасцю 30 і 110 тон. Будзе таксама пастаўлена ў ЗША яшчэ 25 кар'ерных самазвалаў грузападымальнасцю 42 тоны.

Стваральнікі «БелАЗаў» разумеюць, што без далейшага ўдасканалення машын, без пастаяннай работы над павышэннем іх тэхніка-эксплуатацыйных характарыстык сёння цяжка ўтрымацца на міжнародным рынку. Свае спажыўцы таксама прад'яўляюць высокія патрабаванні да пастаўляемай тэхнікі. Вялікую работу ў гэтым плане праводзяць канструктары аўтамабільнага завода. На іх кульманах «з'яўляюцца» новыя, больш магутныя машыны. У 1987 годзе на ВДНГ у Маскве дэманстраваўся 170-тонны «БелАЗ-75211», за які група работнікаў удастоена сярэбраных медалёў выстаўкі. А ў канструктарскім бюро перспектыўных распрацовак ужо нараджаецца новы «БелАЗ» грузападымальнасцю 250—270 тон.

БЕЗ ЯДАХІМІКАТАЎ



Лабараторыя біялагічнага метаду барацьбы са шкоднікамі і хваробамі гароднінных культур створана ў саўгасе «Гродзенская гароднінная фабрыка». Тут вырошчваюцца спецыяльныя мікраарганізмы, наладжана вытворчасць грыбковых прэпаратаў, якія не толькі паспяхова прымяняюцца на фабрыцы, але і прадаюцца цяплічным і падсобным гаспадаркам вобласці.

Дзякуючы новаму метаду, у саўгасе ўдалося пазбегнуць прымянення гербіцыдаў і ядахімікатаў у перыяд пладанашэння раслін. Значна павысілася і ўраджайнасць культур. Выхад прадукцыі з кожнага квадратнага метра плошчы склаў у сярэднім 33 кілаграмы — адзін з лепшых паказчыкаў у рэспубліцы.

НА ЗДЫМКУ: вядучы аграном саўгаса Людміла КУЛГУДЗІНА (злева) і лабарант Раіса КАРЧ.

ЭКСПАНУЕЦЦА КЕРАМІКА

## ПАКАЗВАЕМ У ПРАЗЕ

Вырабы народных мастацкіх промыслаў Армянскай, Беларускай і Латвійскай Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік прадстаўлены на выстаўцы, якая адкрылася ў Празе ў дэманстрацыйнай зале пры Гандлёвым прадстаўніцтве СССР і ЧССР.

Прадукцыя чатырох прадпрыемстваў, якія ўваходзяць у вытворчае аб'яднанне «Белмастацкераміка», прадстаўлена на выстаўцы багатым асартыментам керамічных вырабаў, асноўным матэрыялам для вытворчасці якіх з'яўляецца чырвоная гліна.

АЎКЦЫЁН У КАЛГАСЕ

## ПАРАСЯ... ПА ЛАТАРЭІ

Пародзістых кароў, цялушак прадставілі на выстаўку-продаж племяннoй жывёлы лепшыя гаспадаркі Мінскага раёна. Аўкцыён праводзіўся ў прыгарадным калгасе імя Гастэлы. Заатэхнікі, ветэрынары, брыгадзіры ферм з усяго раёна агледзелі племянную жывёлу, пазнаёміліся з навінкамі жывёлагадоўлі. Асаблівы інтарэс выклікала ў іх вывядзенне бычкоў метадам трансплантацыі эмбрыёнаў.

Была ў выстаўкі і іншая мэта — зацікавіць жыхароў навакольных вёсак у расшырэнні свайго асабістага падвор'я. І калі пародзістую карову прадавалі за вельмі высокую, хаця і апраўданую, цану, то парасяты, трусы і іншая жыўнасць разыгрываліся па латарэі. Шчаслівцаў у гэты дзень было нямала.

Па просьбах сялычан вырашана зрабіць такія аўкцыёны штогадовымі.

АБ'ЯЎЛЕНЫ КОНКУРС

## БУДЗЕ ГЕРБ У ГОРАДА

Магчымасць прапанаваць свой герб горада над Бугам атрымаў кожны яго жыхар. Выканком гарадскога Савета аб'явіў конкурс на лепшую яго распрацоўку. Асноўная ўмова мастацка-графічнага адлюстравання сімвала Брэста — уменне ўвасобіць старонкі амаль тысячагадовай гісторыі горада, гераізм абаронцаў крэпасці-героя, сучасныя дасягненні ў эканамічным і сацыяльным развіцці.

АКТУАЛЬНАЕ У ПРЭСЕ

## *ПРА КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ*

У канцы снежня мінулага года ў рэспубліканскай газеце «Советская Белоруссия» пад рубрыкай «Старонкі гісторыі» быў апублікаваны вялікі артыкул доктара гістарычных навук М. Кузняцова, у якім гаворка аб тым, як нялёгка і складана ішла калектывізацыя ў беларускай вёсцы, да якіх часам трагічных вынікаў прыводзілі перагібы і скажэнні ленінскай ідэі аб кааперацыі.

Першыя калектыўныя гаспадаркі ў Беларусі былі створаны ўжо ў 1919 годзе. Аднак яны не мелі трывалай эканамічнай асновы, і наспех арганізаваныя камуны пачалі распадацца. Адвяргаючы штурм і націск, У. І. Ленін распрацаваў кааператыўны план, што прадстаўляў сабой шырокі комплекс мер, выкананне якіх дало б багаты плён. Першыя вынікі (з 1921 па 1928 год тэмпы прыросту сельскагаспадарчай вытворчасці перавысілі 10 працэнтаў) сведчылі аб правільнасці абранага шляху. Аднак далейшае развіццё кааперацыі было перапынена, ленінскія ідэі скажоны і забыты. Сталіна не задавальняў план паэтапнага, паступовага пераўтварэння вёскі ад найпрасцейшых форм кааперацыі да вышэйшых. Асноўнымі сталі сілавыя метады ўздзеяння на сялян, калі яны адмаўляліся прадаваць хлеб па цвёрдых дзяржаўных цэнах, хавалі яго, узнімалі на яго цэны.

Супраць сілавых, валюнтарысцкіх метадаў у эканоміцы ў Беларусі выступіў народны камісар земляробства Д. Прышчэпаў, які разам са сваімі аднадумцамі быў абвінавачаны ў праваўхілісцкіх тэндэнцыях. Д. Прышчэпаў быў абвінавачаны таксама ў насаджэнні кулацкіх гаспадарак, яго заклікі мелі на мэце кантррэвалюцыю, як тэарэтыка зрошчвання беларускага кулацтва і капіталістычных элементаў з буржуазным нацыяналдэмакратызмам.

Барацьба з правым ухілам суправаджалася фарсіраваннем калектывізацыі. На XII з'ездзе КП(б)Б раздаваліся цвярозыя галасы аб неабходнасці ўмацаваць ужо створаныя калгасы, але іх не слухалі. У пачатку 1930 года, выступаючы на Пленуме ЦК КП(б)Б, сакратар ЦК К. Гай патрабаваў завяршэння суцэльнай калектывізацыі да 1931 года. У выніку антынародных, няправільных метадаў правядзення калектывізацыі адбылося расcяляньванне мужыка. Сяляне рэзалі жывёлу і тым самым наносілі непапраўную шкоду гаспадарцы рэспублікі. Замест свядомага, удумлівага гаспадара, карміцеля краіны селянін ператвараўся ў напалоханага выканаўцу чужой бюракратычнай волі. Глыбіня і трагізм дапушчаных памылак хутка сталі відавочнымі, спатрэбіліся экстранныя меры па іх выпраўленню. Аднак хутка выправіць становішча не ўдалося.

Больш таго, у Беларусі былі дапушчаны новыя памылкі і перагібы. Вясной 1932 года замест суцэльнай калектывізацыі пачаўся чарговы адыход сялян з калгасаў. Прычыны самыя простыя. «Працаваў многа, а атрымаў мала, не далі зусім ільну, я хаджу без кашулі»,— так пісалася ў адным з лістоў сялян.

У 1933 годзе ў краіне, у тым ліку і ў Беларусі, па ацэнцы самога Сталіна, галадала 25-30 мільёнаў чалавек. Гэта было вынікам глыбока памылковай палітыкі Сталіна, які лічыў правільным у імя класавых інтарэсаў пралетарыяту і сацыялізму эканамічнае рабаўніцтва, фізічнае знішчэнне, збіранне феадальнай даніны з сялян.

Сёння метады, якімі ажыццяўлялася абагульненне сельскай гаспадаркі, перагібы пры правядзенні калектывізацыі рашуча асуджаны партыяй. Шлях насілля і жорсткасці — не наш шлях.

НАВІНЫ СТАЛІЦЫ





Адзін з буйнейшых камісійных магазінаў адкрыўся нядаўна ў Троіцкім прадмесці Мінска. Прыцягваюць увагу прыгожае афармленне вітрын і ўнутраных інтэр'ераў. У трох гандлёвых залах размясціліся аддзелы па продажу айчыннай і імпартнай кіна- і фотатэхнікі, радыёапаратуры, старадаўніх гадзіннікаў і антыкварыята, вырабаў з фарфору, крышталя, золата.

НА ЗДЫМКАХ: антыкварныя гадзіннікі прапаноўвае пакупнікам Святлана ТАТУР; у гандлёвай зале новага магазіна.

*АГРАФІРМА «ДЗВІНА» КОРМІЦЬ ВІЦЕБСК*

# ДЫРЭКТАР ПА ПРЫЗВАННЮ

— Сёння вельмі патрэбны самастойна і па-наватарску думаючыя гаспадарнікі. На жаль, сустракаюцца сярод іх і такія, што нагадваюць чалавека, які ідзе наперад, а глядзіць назад... А вось Лысакоўскі мне падабаецца... Зрэшты, усё ўбачыце самі на месцы.

З гэтымі словамі на дарогу першага сакратара Віцебскага абкома партыі В. Грыгор'ева я і адправіўся ў аграфірму «Дзвіна», гаспадарка якой размясцілася непадалёку ад горада Віцебска.

«Дзвіна» — аграпрамысловае аб'яднанне па вытворчасці, захаванню, перапрацоўцы і гандлю сельскагаспадарчай прадукцыяй. Уладзімір Лысакоўскі — генеральны дырэктар гэтага прадпрыемства. Яму пяцьдзесят гадоў, але выглядае ён значна маладзейшым: рухавы, стройны, высокі. У аграфірму, якую ён узначальвае, увайшлі шэсць прыгарадных саўгасаў, у тым ліку і «Рудакова» — гаспадарка, дзе да стварэння аб'яднання Лысакоўскі працаваў дырэктарам.

... Калі яго выбралі дырэктарам, на першым жа сходзе ён адкрыта ўказаў работнікам на заўважаныя ім недахопы: «Трэба мысліць самастойна, не толькі прытрымлівацца загадаў, а словы падмацоўваць справамі...». І пачаў Лысакоўскі з таго, што скараціў апарат упраўлення, зрабіў стаўку «на работу без чыноўнікаў»: колькасць упраўленцаў зменшылася з 250 да 25 чалавек.

— Калі адміністрацыйны апарат аб'яднанняў Дзяржаграпрома, як і нашы 25 упраўленцаў, сканцэнтруе ўвагу толькі на вырашэнні стратэгічных задач, — разважае дырэктар, — у яго проста не будзе часу апекаваць селяніна па дробязях.

У аграфірме не адразу, але планамерна, не ўшчамляючы інтарэсаў людзей, сталі ўкараняць прынцып арганізацыі комплексных аграпрамысловых брыгад на поўным гасразліку, калі калектыву пад асабістую адказнасць аддаецца і зямля, і сродкі вытворчасці, і матэрыяльныя рэсурсы — будзь гаспадаром. Адны і тыя ж людзі вырошчваюць, напрыклад, бульбу, убіраюць яе, перапрацоўваюць, атрымліваючы за працу па канчатковаму выніку. Пазней па такой жа мадэлі арганізавалі перапрацоўку мяса, малака, гародніны і фруктаў, стварыўшы пры гэтым безадходную вытворчасць.

З часам, як і задумваў Лысакоўскі, работа на канчатковы вынік узняла не толькі прадукцыйнасць працы, якая матэрыяльна выявілася ў высокіх заработках, але і дала развіццё новай ініцыятыве: калектыў аграфірмы вырашыў сам заняцца рэалізацыяй сваёй прадукцыі. Для гэтага «Дзвіна» ўжо накапіла неабходныя інвестыцыі. У горадзе Віцебску адкрыліся і адкрываюцца яшчэ яе фірменныя магазіны, кафэ, рэстараны. Яны цалкам знаходзяцца на бюджэце аграфірмы.

Калі я аднойчы ў гароднінных магазінах і палатках гэтага горада не ўбачыў чаргі, то, натуральна, пацікавіўся ў мясцовых жыхароў: «З якога часу іх не стала?» І пачуў адказ: «А з таго, як абралі дырэктарам гародніннага аб'яднання Лысакоўскага».

Сапраўды, столькі свежай гародніны і фруктаў, колькі на прылаўках 28 магазінаў аграфірмы «Дзвіна», я, бадай, не бачыў ні ў адным з пяці іншых абласных цэнтраў Беларусі. Ды і лічбы красамоўна пацвярджаюць поспехі. Цяпер «Дзвіна» прадае ў год гародніны да 120 кілаграмаў на душу гарадскога насельніцтва. А к канцу пяцігодкі, запэўнівае Лысакоўскі, будзе каля 140 кілаграмаў. Гэта ўжо цалкам здавальняючая, рэкамендуемая норма спажывання.

Лысакоўскі слоў на вецер не кідае. Мэтай вытворчасці ў калектыве аб'яднання перш за ўсё стала задавальненне канкрэтных запатрабаванняў спажыўцоў, а не выкананне валавых паказчыкаў. Дырэктар адваяваў у інстанцыях права самім фарміраваць свае планы ў інтарэсах гараджан. А на частку атрыманай звышпланавай прадукцыі аграфірма сама знаходзіць пакупнікоў: ці напрамую, ці праз новую сістэму аптовага гандлю. Выгада тут несумненная. З'явіліся ўжо і наметкі для наладжвання гандлёвых узаемаадносін напрамую з замежнымі краінамі: аграфірме неабходна валюта для набыцця імпартнага абсталявання. У адпаведнасці з дзеючым палажэннем 30 працэнтаў сваёй прадукцыі аграфірма рэалізуе па цэнах, устаноўленых саветам аб'яднання.

— Саўгасам, якія пажадалі весці з намі ў складзе аб'яднання вытворчасць, мы прадаставілі поўную юрыдычную і эканамічную самастойнасць, — тлумачыць Лысакоўскі. — З галаўным прадпрыемствам іх звязваюць толькі дагаворныя адносіны. «Дзвіна» гарантуе ім выхад на пэўныя рубяжы ўраджайнасці, прадукцыйнасці жывёлы, калі, вядома, гаспадаркі гэтыя вытрымліваюць прапанаваныя для ўкаранення рэкамендацыі і тэхналогіі.

Каб такое партнёрства было і ў далейшым выгадна ўсім, Лысакоўскі на адным з пасяджэнняў савета аб'яднання прапанаваў для бакоў, якія супрацоўнічаюць, такі механізм эканамічных узаемаадносін, які адпавядае перабудове. Ён быў прыняты адзінагалосна. У аснове яго нарматыўныя адлічэнні грашовых сродкаў усіх падраздзяленняў аб'яднання галаўному прадпрыемству для перспектыўнага развіцця фірмы, супрацоўніцтва з навукова-даследчымі ўстановамі па профілю. Яны вызначаюцца на падставе кошту дадаткова атрыманай прадукцыі, прыбытку і павінны не толькі пакрываць расходы фірмы, але і забяспечваць ёй узровень рэнтабельнасці, які пастаянна расце.

Аднак дасягнутыя аграфірмай вынікі толькі часткова задавальняюць Лысакоўскага. Вось, напрыклад, адзін гектар гародніны пад плёнкай дае значны прыбытак, але гэтую лічбу можна і падвоіць. Ёсць рэзервы павелічэння вытворчасці малака, мяса, збожжа...

І Лысакоўскі шукае новыя шляхі ў гаспадаранні, арганізуе справу так, каб прыбыткаў ад высокапрадукцыйнай працы хапала і на развіццё вытворчасці, і на паляпшэнне інфраструктуры. Яшчэ не задавальняюць дарогі, не хапае грузавых машын, транспарцёраў, аўтаматычных ліній, складаў, збожжавых і гароднінных сховішчаў. Бывае, што ў дажджлівы год гіне многа гародніны на палях. Са стратамі тут змагаюцца ўсім гуртам, але якой цаной!

— Селянін не павінен працаваць 12 гадзін у суткі, — разважае дырэктар. — Ён абавязкова павінен, як індустрыяльны рабочы, мець два выхадныя на тыдзень, больш часу аддаваць дому, сям'і, вырошчваць на прысядзібным участку кветкі, выхоўваць дзяцей, павышаць свой культурны ўзровень. Для гэтага таксама патрэбны час.

Жывая справа перабудовы сёння ў многім залежыць менавіта ад такіх людзей, як Лысакоўскі. Гэты чалавек працуе з захапленнем, і захопленасць яго ідзе ад упэўненасці, што толькі багацце прадуктаў на прылаўках магазінаў, вырашэнне ўсіх праблем харчовай праграмы вызначаць поспех перабудовачных працэсаў.

**Рыгор КОЛАБАЎ.**

*ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ СВАЁЙ*



**Сваёй стала для яе гэтая вёска. Амаль дваццаць гадоў назад з дыпломам агранома прыехала Вольга Вінаградава ў Крупіцу. Добрую школу прайшла, працуючы ў тутэйшым калгасе «Новы быт» і як спецыяліст, і як кіраўнік. А вучыцца маладому аграному было ў каго. Побач працавалі людзі, якія ведалі сваю справу і любілі зямлю. Разам з імі яна стварала цяперашнюю добрую славу калгаса-мільянера. Не адзін раз аграном Вінаградава прамерала крок за крокам усе палі і пашы, а іх у гаспадарцы — амаль 6 тысяч гектараў. З таго часу гэтыя мясціны, тутэйшыя людзі, вялікія і маленькія вёсачкі і сталі ёй роднымі і дарагімі. Старшынёй Крупіцкага сельскага Савета Мінскага раёна Вольга Браніславаўна працуе параўнаўча нядаўна, але дэпутатам сельскага выканкома выбіралася не адзін раз. Таму справы і праблемы Савета ведае грунтоўна. А добрыя адносіны і дзелавыя кантакты з кіраўнікамі мясцовых гаспадарак дапамагаюць выканкому аператыўна вырашаць многія пытанні.**

**НА ЗДЫМКУ: размова пра набалелае. Старшыня выканкома Крупіцкага сельскага Савета Вольга ВІНАГРАДАВА (злева) з даяркай малочна-таварнай фермы «Кругляк» калгаса «Новы быт» Марыяй ГАНІСЕЎСКАЙ.**

**Фота А. НІКАЛАЕВА.**

РЭПАРТАЖ З УНІКАЛЬНАГА ДЭНДРАЛАГІЧНАГА САДУ

# АКНО Ў ЗЯЛЁНУЮ КАЗКУ

Кожнага, хто апынуўся тут, не пакідае адчуванне дзівоснага, амаль чароўнага падарожжа ў самыя экзатычныя мясціны нашай планеты. Нават не верыцца, што ў такім капрызным і суровым кутку беларускай поўначы прыжылося мноства раслін іншаземнага паходжання—так званых экзотаў, інтрадуцыраваных з розных геаграфічных раёнаў зямнога шара.

— Дэндралагічны сад—наша гордасць,— расказвае дырэктар Глыбоцкага доследнага лясгаса Таццяна Калантай.—Ля вытокаў стварэння унікальнага помніка жывой прыроды стаяў інжынер лясных культур Віктар Ламака. Ён пенсіянер ужо, але па-ранейшаму апантаны ідэяй стварэння цудоўнага. Віктар Антонавіч і цяпер пазаштатны архітэктар дэндрапарку, нястомны падарожнік па зялёнаму царству...

Таццяна Адамаўна з пашанай і павагай расказвае пра ветэрана ляснога будаўніцтва, які ажыццявіў амаль казачную задуму. Яшчэ ў 1967 годзе, да залатога юбілею Савецкай улады, на месцы цяперашняга раскошнага дэндрасаду быў закладзены памятны камень. З часам жывы помнік прыроды набыў абрысы арыгінальнага архітэктурнага і мастацкага твора.

Зараз у калекцыі дэндралагічнага саду налічваецца каля 500 відаў, разнавіднасцей і форм драўняных раслін, што адносяцца да 98 родаў і 35 сямействаў.

Гэта была нялёгкая, упартая і шматгадовая праца энтузіястаў. Толькі 28 працэнтаў жывой калекцыі родам з раёнаў савецкага Далёкага Усходу і краін Усходняй Азіі. Радзіма астатніх—Паўночная Амерыка, Крым, Каўказ, паўднёва-ўсходняя частка Заходняй Еўропы. Пры фарміраванні калекцыі выкарыстоўваўся пасадачны матэрыял з Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР, гадавальніка Белдзяржуніверсітэта Шчамысліца, Мінскага зелянтрэста, зелянгаса горада Вільнюса, дэндралагічнага запаведніка «Трасцянец» з Украіны, Батанічнага саду АН Латвійскай ССР і іншых крыніц.

У падарожжы па чароўнаму саду вам сустрэнуцца піхта сібірская, каўказская, аднаколерная, псеўдатсуга Мензіса, елка калючая блакітная і канадская, лістоўніца сібірская, еўрапейская, японская, сасна чорная аўстрыйская, румелійская, веймутава, кедр сібірскі, туя заходняя і яе формы, ціс ягадны. А вось арэхі—маньчжурскі, сэрцападобны, шэры, дуб паўночны, бук лясны. Незвычайны аксаміт амурскі, розныя віды клёна, глог мяккаваты, Максімовіча і Арнольда. Радуюць вока рабіна арыя, розныя віды барбарысаў, аронік чарнаплодны, язміны, вятроўнікі, вербы розных парод...

Здаецца, што ў саміх назвах застыла музыка і паэзія далёкіх вандраванняў. І зусім не трэба ездзіць за сінія моры, каб падзівіцца на фантастычныя стварэнні прыроды.

Ахвотна наведваюць дэндралагічны сад школьнікі, навучэнцы Полацкага ляснога тэхнікума, лесаводы Беларусі і прыбалтыйскіх рэспублік. Унікальнаму помніку прыроды няма яшчэ і чвэрці стагоддзя. Па чалавечых мерках—узрост пераходу юнацтва ў сталасць. І як чалавек, помнік прыроды пастаянна ўдасканальваецца, відазмяняецца.

Дрэвы і кусты высаджаны тут не хаатычна, а па сістэматычнаму прынцыпу, прынятаму ў батаніцы. Расліны аднаго віду ці формы размешчаны біягрупамі. Звычайна ў адной групе дрэваў 5—10 штук, а кустоў удвая больш. Так ствараецца аптымальны дэкаратыўны фон і зручнасці для агляду.

Дэндралагічны сад закладваўся не проста са славалюбства ці дзівацтва. Мэта была высакароднай: вывучаць рост і развіццё ў мясцовых глеба-кліматычных умовах тэхнічна каштоўных і дэкаратыўных драўляных, кустовых раслін, выяўляць найбольш перспектыўныя віды для ўкаранення ў лясныя культуры і для зялёнага будаўніцтва. Апраўдвае дэндрасад сваё прызначэнне і тым, што ён служыць своеасаблівай базай для нарыхтоўкі насення рэдкіх калекцый і аб'ектам вучэбна-паказальнага значэння. У некаторым сэнсе ён і эксперыментальная лабараторыя для стварэння лясоў будучыні.

Цяпер агульная плошча жывога помніка прыроды каля дзевяці гектараў. Усяго ў яго алеях, радах і адзіночна высаджана 1 100 дрэў і кустоў, створана 4,6 кіламетра жывой агароджы, бардзюраў з пасадкамі звыш 27 тысяч кустовых раслін. А ў найбольш паніжаных месцах утвораны тры штучныя вадаёмы па шэсць сотых гектара кожны. У адной з секцый выкарыстаны прыродны схіл паўднёва-ўсходняй экспазіцыі. На ёй абсталявана альпійская горка з мнагалетнімі раслінамі ўласцівай ёй флоры.

Падарожжа па рукатворнаму казачнаму кутку прыроды нельга лічыць завершаным. Сабранае ў дэндралагічным садзе насенне працягвае новае жыццё ў гадавальніку Глыбоцкага доследнага лясгаса. Вырашчаныя з іх саджанцы раз'язджаюцца далёка за межы раёна. Слава пра мясцовых садаводаў, іх майстэрства дайшла да Галоўнай выстаўкі краіны, адзначана яе Ганаровымі дыпломамі і медалямі. Значыць, ідэя прыгожага гарманічна спалучаецца з задачамі народнагаспадарчага прызначэння.

**Віталій ФЕДАРАЎ.**

## ИСТОРИЯ: ЛЮДИ И СУДЬБЫ

# «...О ТЕХ, КОГО ПОМНЮ И ЛЮБЛЮ»



**Ромуальд Адамович Муклевич. Имя это принадлежит нашей истории, хотя сегодня редко кто скажет, какое отношение имеет этот человек к Белоруссии. Даже фотографии его не нашлось в белорусских архивах. Ее отыскали лишь в Центральном государственном архиве Военно-морского флота СССР.**

**В БелСЭ о нем содержатся скупые сведения. Родился в 1890 году в знаменитом местечке Супрасль на Белосточчине. Член партии большевиков с 1906 года. Советский военный деятель, участник гражданской войны в Белоруссии... В 1919 году был начальником Свентянской группы войск на Западном фронте. Минский губернский военный комиссар... В 1920 году председатель Виленского губернского Военно-революционного комитета... Член ЦИК Белорусской ССР и ЦИК Литовско-Белорусской ССР. Впоследствии занимал ряд ответственных постов, в том числе начальника Военно-Морских Сил СССР, заместителя наркома оборонной промышленности...**

**Мне хотелось узнать о нем больше, как о человеке, узнать о его семье, увлечениях, идеалах, узнать о тех горьких годах и днях, когда его, как и многих других революционеров ленинской гвардии, объявили «врагом народа». Объявили и, по сути, без суда и следствия расстреляли его и жену. И сколь ни горько было ворошить эти страницы судьбы Ромуальда Муклевича, я все же приехал на небольшую зеленую московскую улочку побеседовать с его дочерью Ириной Ромуальдовной БАРСАМЯН-МУКЛЕВИЧ.**

*— Наверное, будет немножко неестественно, если мы начнем наш разговор с вопроса, который, может быть, покажется второстепенным, но, на мой взгляд, будет характеризовать обстановку в вашей семье,— какие черты характера вы могли бы выделить в родителях?*

— Мне трудно просто ответить на этот вопрос, трудно сказать, в чем проявлялась забота моих родителей обо мне. Будучи людьми неординарными—папа тогда был заместителем наркома вооружений, мама работала в Госплане,—они тем не менее, из-за отсутствия свободного времени, поразительно сильно доверяли мне, были обыкновенно мягки.

Мой отец никогда не читал мне нотаций, у нас в доме царила атмосфера взаимного уважения, доверия, предельной честности. И еще. Никогда не говорили о благах, о каких-то продвижениях по службе. Я уверена, что папины друзья, собиравшиеся у нас дома, несомненно разделяли убеждения нашей семьи. А что это были за люди! И. Уншлихт, М. Тухачевский, Я. Гамарник, С. Киров, который, когда приезжал в Москву, непременно бывал у нас.

Какие черты я ценила в своих родителях? Остроумие, сердечность... Папа был очень веселым человеком, душой любого общества. Именно таким он и остался в памяти многих. Причем особенно тянулись к нему молодые люди. Папа очень любил спорт, особенно лазить по горам, теннис, шахматы, умел хорошо плавать. Еще меня подкупала в нем ответственность: к себе, к другим.

*— Вы затронули здесь другой вопрос: отношение к нему людей, с которыми он соприкасался волею судеб, с теми, с кем работал и с кем нет...*

— Порой даже доходило до неожиданных моментов. Вспоминаю, когда училась в институте иностранных языков—с 1943 по 1947 год, самое страшное время, у нас читал западноевропейскую литературу профессор Ю. Данилин. И вот однажды пришла я сдавать ему экзамен, отдала свою зачетку, а он вдруг и говорит: «Ирина Муклевич? Скажите, Ромуальд Адамович—ваш родственник?» «Боже,—подумала я,—что ему сказать? Знает ли он, какая участь постигла моего отца, а он так открыто называет его имя и фамилию. Ведь за это тогда можно было поплатиться...» Но ответила: «Да, я его дочь». И тогда случилось неожиданное, он вдруг встал и громко на всю аудиторию сказал: «Дайте вашу руку. Я должен пожать руку дочери такого необыкновенного человека».

Но это все ничто по сравнению с тем, что я пережила в 1943 году, когда вернулась в Москву из эвакуации из Казахстана. Меня не хотели прописывать и направили в районное отделение НКВД. Я пришла к начальнику, хотя, честно говоря, мне было неприятно идти туда. Почему-то попала в неурочное время. Вхожу в кабинет, вижу, как кто-то вешает маскировочные шторы. Я обратилась к нему, рассказала о своем деле. А он смотрит в мои бумаги и вдруг говорит: «А вы знаете, я очень хорошо знал вашего отца». Можете себе представить, когда вам такое говорят, да еще где—в НКВД. Оказалось, он долгое время служил в отделе охраны правительства и тоже охранял моего отца. «Какой это был прекрасный человек»,—вдруг тихо сказал он...

*— Наверное, и там тоже были разные люди...*

— Наверное... Может быть, вернусь к вашему предыдущему вопросу, отметив, что вера в идеалы социализма, в правильность выбранного курса была и у моего папы, и у моей мамы идеализирована. Они ни в коей мере не сомневались в победе социализма, а в случае угрозы ему—в необходимости защиты. Помню, когда однажды я спросила у мамы, что они будут делать, если начнется война, то она както тихо и в то же время уверенно сказала: «Мы с папой сразу же пойдем на фронт». Я в смятении спросила: «А как же я?»—«Ты останешься с бабушкой...»

*— Интересно, а рассказывали ли ваши родители что-либо о своем революционном, боевом прошлом?*

— Однажды, я помню, спросила у папы: «Почему ты мне никогда не рассказываешь о гражданской войне?» Он подумал и ответил: «Знаешь, тогда было столько тяжелых переживаний, что мне даже сейчас не хочется ничего вспоминать». И он мне ничего не рассказывал—а я до сих пор очень жалею, что ничего не знаю о его делах: как он воевал, за что был награжден орденом Красного Знамени, золотым оружием, часами. Там было написано—«За героизм», но за что конкретно—не знаю. Ему, наверное, казалось тогда, что еще не настало для этого время и что он еще об этом напишет и расскажет...

*— 1937 год. Наверное, ваш отец видел все, что происходит вокруг. Как он реагировал на все эти акции против так называемых «врагов народа»—ведь он так верил в непогрешимость системы, правильность принимаемых решений...*

— Помню один случай, который произошел с близким другом отца—тоже поляком Колесиньским. В 1936 году у него начались неприятности: его уволили из армии, лишили звания, исключили из партии. Ему сфабриковали дело и обвинили в шпионаже. Мой папа был взбешен, ибо он знал Колесиньского многие годы и считал это обвинение безосновательной чепухой. Папа сразу же взял его к себе на работу—позднее это ему тоже поставили в вину. Уже тогда папа говорил, что подобное может случиться и с ним...

*— Почему?*

— Потому что к тому времени уже многие наши знакомые разделили судьбу Колесиньского. Я помню выдержку из письма, которое папа написал Сталину, о том, что стечение роковых обстоятельств подрывает его доверие к партии. У него было резко отрицательное отношение к арестам, и он не боялся говорить об этом вслух. Особенно, когда к нему стали приходить сотрудники НКВД и требовать от него обвинительные материалы на его заместителей.

*— Как вы пережили те трагичные для вас дни — 26 и 28 мая 1937 года? Точнее — были ли люди, которые помогли вам?*

— Знаете, страдания моих родителей как бы предохраняли мою судьбу. Это даже несколько мистический момент, но это так было. Я закончила институт иностранных языков, получила свободный диплом, осталась в Москве, поступила работать в школу—и все это благодаря тем людям, которые верили в моего отца, помнили его, несмотря на все потоки грязи в его адрес, старались помочь его дочери.

...Первым, кто пришел мне на помощь, был Матвей Шейнюк, муж сестры моей матери. Он свято верил в моего отца, считал его чем-то вроде идеала для себя. Помню, как в роковой день приезда из Ленинграда в Москву 28 мая папа сказал ему: «Я вижу, что дело идет к аресту, но я не знаю, что будет тогда с Ириной». Он в ответ: «Ромуальд Адамович, пока я жив, Ира будет жить с нами». И он исполнил это, пока в январе 1938 года не арестовали его—«за связь со шпионом Муклевичем».

...После переезда к Шейнюку, както спустя пару месяцев, к нему пришел военный с большой тетрадкой в руке. Он затребовал меня в детский дом для детей «врагов народа». Дядя мой на это сказал, что Ирина будет жить у него, и если надо, то он удочерит ее. И вот благодаря ему я и выпала из этой страшной машины, которая «съела» детей всех ответственных работников, репрессированных в те годы. Я жила у дяди, а мои друзья и подруги—дети Тухачевского, Гамарника, Уборевича, когда им исполнялось 18 лет, так же, как и их отцы, попадали в тюрьму, тоже за «антисоветскую» пропаганду. Ведь если врагами были их отцы, ими должны стать и дети.

*— Мне трудно задавать вам следующий вопрос, и поэтому, если хотите, не отвечайте на него... Вы ходили в тюрьму к матери и отцу, как вы нашли их в этой «мясорубке»?*

— Я узнала, что сведения об арестованных дают на Кузнецком мосту, 24—там была приемная НКВД. Пришла и поразилась—там стояла многочасовая очередь. Дождалась, узнала: папа был в Лефортовской тюрьме, мама—в Бутырской. Передач не брали, можно было пересылать лишь по 30 рублей в месяц, сразу или по частям. И если в тюрьме деньги брали, значит была гарантия на 80 процентов, что они здесь.

Но вот однажды—в конце августа 1937 года, когда я пришла передать деньги, мне сказали, что папа на Лубянке. Так было до февраля 1938 года—12 февраля денег уже не приняли, а направили в прокуратуру. Я пришла, а мне сказали: «10 лет без права переписки». И я ждала, ждала, что родители вернутся. Ждала и верила.

В 1947-м меня направили в городской ЗАГС—и тут у меня сердце екнуло, когда вместе с девушкой-сотрудницей я нашла в книгах умерших две заветные для меня записи: «Ромуальд Адамович Муклевич умер от сердечной недостаточности в 1943 году, Анна Яковлевна Муклевич—от воспаления легких в 1944-м». Это была, конечно же, ложь, как я потом узнала: они были расстреляны.

*— Скажите, как сложилась ваша жизнь потом...*

— Я вышла замуж в 1949 году за очень хорошего человека, сына старых большевиков из Еревана.

*— Скажите, Ирина Ромуальдовна, вот ваш отец и мать до конца верили в Сталина, как бы перенеся с Ленина эту веру, и они даже не допускали, что это если не по его личному приказу, то с его молчаливого одобрения происходило...*

— Все мы тогда безгранично верили в Советскую власть и не допускали, что возможны какие-то ошибки. Если арест, то правильно, так и надо. Но вот арестовывают маму и папу, и не их одних—многих наших друзей. В нашем доме с каждым днем гасло все больше окон. Жильцы шепотом передавали друг другу новости: «выбросился из окна», «застрелился», «арестован»... Из жильцов нашего подъезда уцелели лишь Хрущев, Жданов и Шверник. Случалось, и месяца не проходило, как из Дома на набережной исчезали люди, а на их место вселялись новые. И с ними происходило то же самое.

...Я верила своим родителям, верила в их невиновность. А раз так, раз арестовывали таких людей, значит, Сталин знал об этом. И тем не менее я писала письма: и Берии, и Молотову, и Ворошилову, и самому Сталину.

*— И что же — были ответы?*

— Нет...

*— Но вот наступает 1953-й. Ваши чувства?*

— Прежде всего—страх. Потому что тогда свирепствовал Берия, готовился процесс врачей. Смутное время было... Я почувствовала старый почерк репрессий. Потом пришел Хрущев, и я написала заявление, пошла в прокуратуру. Просить пересмотра дела...

*— А почему вы вдруг решили это сделать?*

— Я надеялась, что справедливость все-таки должна восторжествовать... Дело долго пересматривалось—месяцев восемь, и все время я ходила и ждала. Ходила и ждала, как тогда в 1937-м. Вскоре меня пригласили в Комитет партийного контроля...

*— Кстати, в чем обвиняли в свое время вашего отца?*

— Лишь в 1956 году я узнала, в чем. Статья 57, пункты 10, 11, 12.

*— Что это?*

— Сейчас я вам прочту: «осужден, как участник террористической антисоветской шпионско-диверсионной организации «ПОВ» (Польска организация войскова). С 1935 года мой отец якобы к тому же «сотрудничал» с итальянской разведкой.

*— И еще один вопрос. С вами говорили в Комитете партийного контроля, жали вам руку, а ваши чувства в этот момент? Все это хорошо — но две дорогие вам жизни были безвозвратно погублены?*

— Должна вам сказать, что в последний день, 28 мая 1937 года, перед арестом папа в разговоре с дядей сказал, что одно дело умереть в бою, другое—когда имя твое опозорено... Именно это и толкало меня искать документы, подтверждающие—как ни парадоксально это звучит,—что мой отец—честный человек. И вот наконец правда восторжествовала. Пусть даже ценой гибели двух дорогих мне людей, тех, которых я до сих пор помню и люблю... И мне очень хочется, чтобы имя Ромуальда Муклевича звучало так, как должно звучать.

*— И последний вопрос. У вас родился ребенок...*

— Это сын Георгий. Сейчас ему уже 33 года и у него самого двое детей—дочь Катенька и сын Саша. Естественно, я много рассказывала сыну о дедушке и бабушке, поскольку эта боль постоянно живет во мне. Чтобы и он, а сейчас и его дети жили с именем «деда Ромка» на устах...

**Александр ЧЕРЕПАНОВ.**
(АПН).

*ІНТЭРВ'Ю З КАМПЕТЭНТНЫМ СУБЯСЕДНІКАМ*

# ЯК У ЖЫЦЦІ ЦІ ЯК У КІНО?

*Юрый Лысятаў — вядомы беларускі рэжысёр-дакументаліст з ярка акрэсленай, уласнай тэмай у кіно. Ён зняў больш дзесятка фільмаў пра вёску, пра яе жыхароў, іх стаўленне да зямлі. Такія стужкі, як «Бацькоўскае поле», «Круглы год», «Персанальны гектар», «Наказ», — сур'ёзнае даследаванне складаных праблем калектыўнага гаспадарання на вёсцы.*

*Цяпер рэжысёр заканчвае новую работу — дакументальны фільм «...А ў полі — вецер». Яе героямі сталі двое сялян — немаладыя муж і жонка, якія перайшлі на сямейны падрад — узялі ў калгасе на адкорм 25 бычкоў...*

*Наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА гутарыць з заслужаным дзеячам мастацтваў БССР, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі рэспублікі Юрыем ЛЫСЯТАВЫМ.*

**— Юрый Васільевіч, апошні фільм—пра новыя з'явы ў нашым жыцці, пра новыя формы гаспадарання ў калгасах. Камера бясстрасна фіксуе ўбачанае: небагаты сялянскі падворак, непрыхарошаны вясковы побыт, амаль ідылічны зімовы пейзаж і цяжкую працу гаспадароў на ферме, пазбаўленай усіх сродкаў механізацыі, дзе і гадуюцца тыя 25 «падрадных» бычкоў... Назва стужкі «...А ў полі — вецер» навеяла сумныя думкі. Вы што, песіміст?**

— Ну чаму ўжо адразу і песіміст? У гэтым фільме я якраз рэаліст. Мае героі — звычайныя вяскоўцы. Жывуць яны пад Старобінам. Трое іх дарослых сыноў пакінулі вёску, паехалі ў Салігорск і, хаця яшчэ не зусім адарваліся ад зямлі, але шчасця і долі шукаюць далёка ад бацькоўскай хаты. У фільме ёсць кадры, дзе хлопцы гавораць пра свае адносіны да вёскі: з любоўю, з жалем, расчаравана...

Старыя ж гаспадары пражылі ўвесь свой век на гэтай зямлі, усе сілы аддалі калгасу, а той так і не расквітнеў, не спраўдзіў іх надзей.

Зноў жа, пад старасць засталіся адны. Ці ж радасць гэта? Вырашылі з надыходам новых часоў узяць на адкорм жывёлу. І даказаць усім, што безгаспадарчасць і безадказнасць людзей — прычына многіх бед у калгасе. Нават авансу не ўзялі ў праўленні. Працуюць без выхадных, узваліўшы на сябе ўсе клопаты па догляду жывёлы. А гэта зусім няпроста! І свае ж, вяскоўцы, абвінавачваюць іх у тым, што цалкам аддзяліліся ад калгаса.

З маналогаў калгаснікаў можна зразумець, што няпростыя і неадназначныя працэсы адбываюцца цяпер у вёсцы. Людзі як быццам не могуць адысці ад доўгага летаргічнага сну, усвядоміць сваю сапраўдную ролю ў жыцці, свае права быць гаспадаром на зямлі, карыстацца ўсімі здабыткамі сучаснага грамадства. А вы кажаце — песіміст. Мне, прынамсі, давялося зняць нямала надзвычай аптымістычных стужак пра нашу вёску. Аптымізм, увогуле, неблагая рыса. Але, як ведаеце, шматгадовы наш нязгасны аптымізм, нежаданне глядзець праўдзе ў вочы, аналізаваць сапраўдны стан спраў завёў грамадства ледзь не ў тупік. У многім дзякуючы такому нястрымнаму аптымізму мы мусім цяпер рабіць перабудову. Каб усё ў нашым жыцці расставіць па сваіх месцах.

**— Скажыце, а чаму вы ўсё ж абралі такую няўдзячную, як мне здаецца, вясковую тэму?**

— Сапраўды, чаму? Я неяк не задумваўся. Пэўна, тут мела ўплыў і тое, што ў дзяцінстве я жыў у правінцыі, быў цесна звязаны з вёскай. Мясціны пад Асіповічамі і цяпер авеяны ў маёй памяці нейкай рамантыкай. А ўвогуле, добра памятаю даваенную вёску, ваенных часоў, першых пасляваенных гадоў. Вясковае быццё адчуваю душой. Калі ў дзяцінстве не заўважаеш, скажам, цяжкасцей вясковага побыту, знясільваючай, амаль першабытнай працы і г. д., то з узростам, гледзячы на неўладкаванасць жыцця старой калгасніцы, адзінокай бабулькі ці маладой настаўніцы, якая здымае пакойчык у чужой хаце, на неахайныя адносіны маладых спецыялістаў да тэхнікі, на абыякавасць многіх да вынікаў сваёй працы, то пачынаеш разумець, што нешта ў жыцці тут няправільна, і робіцца вялікая несправядлівасць, калі людзі становяцца нікому непатрэбнымі вінцікамі і болцікамі складанай машыны.

У горадзе ўсё трохі па-іншаму. Чалавек больш ізаляваны ад знешняга свету. Адпрацаваў і прыйшоў у сваю ўладкаваную кватэру. А ў вёсцы ўсімі ніцямі ты звязаны з іншымі, з грамадой. Трэба паліва, трэба корм для хатняй жывёлы, трэба, трэба, трэба... А вяршыцель лёсаў — старшыня калгаса. У прынцыпе ўсё тут залежыць ад яго. Хаця, агаваруся, магло б залежаць ад яго. Бо старшыня калгаса, у сваю чаргу, аказваецца звязаным па руках і нагах нябачнымі путамі — валявымі рашэннямі «зверху»: што вырошчваць і як сеяць, колькі здаваць дзяржаве, а што пакінуць сабе. Цяпер сітуацыя мяняецца, я ведаю, але яшчэ зусім нядаўна было менавіта так, як я казаў.

**— Дык ваш старшыня калгаса імя Сільніцкага Кімстач з фільма «Бацькоўскае поле» прыхарошаны рэжысёрам! вам проста хацелася яго бачыць такім — мудрым, чалавечным, здольным аб'яднаць вакол сябе працаўнікоў, накіроўваць іх намаганні ў патрэбным рэчышчы!**

— Разумееце, гэты фільм рабіўся задоўга да часоў перабудовы. Але я не стаў бы за. ваць яго ў разрад ружова-аптымістычных. Хаця і скажу, што тут спроба глыбока празандзіраваць праблемы не ўдалася. Закрануты павярхоўны, знешні іх зрэз.

Тым не менш старшыня Кімстач — дастаткова праўдзівы вобраз. Гэты чалавек узначальвае моцную гаспадарку. Калі мы са здымачнай групай працавалі ў калгасе імя Сільніцкага, то бачылі яго адносіны да людзей, да спраў, чулі шмат добрых слоў ад калгаснікаў пра свайго старшыню. Такім чынам, праз асобу гэтага гаспадара, кіраўніка, праз яго ўзаемаадносіны з калектывам мы паспрабавалі хаця б пунктырна абазначыць тыя праблемы, якія падточваюць знутры калгас, падразаюць крылы людзям і робяць бесперспектыўным усю іх справу. Напрыклад, у фільме прагучалі словы мясцовай настаўніцы пра тое, што ў калгаснай школе няма каму вучыцца, стала зусім мала дзяцей у вёсках. Таксама з трывогай гаварылася пра тое, што моладзь пакідае вёску, хаця мае тут неблагія заробкі. І хаця ў стужцы «станоўчае» і «адмоўнае» было ўраўнаважана, усё ж на афіцыйнай задачы мне было заяўлена, што фільм шкодны і выпускаць такі матэрыял на шырокі экран нельга.

**— І фільм быў пакладзены на паліцу!**

— На шчасце, атрымалася па-іншаму. Сталічныя перастрахоўшчыкі паслалі яго на прагляд віцебскаму вышэйшаму кіраўніцтву (фільм здымаўся на Віцебшчыне). Партыйнае кіраўніцтва вобласці, а потым і сам Пётр Машэраў падтрымалі «Бацькоўскае поле». Дзякуючы гэтаму, дакументальная стужка звярнула ўвагу тысяч людзей на стан сельскай гаспадаркі адной з абласцей рэспублікі, акцэнтавала ўвагу на тых сацыяльных праблемах, якія неабходна было тэрмінова вырашаць.

Але ж магло здарыцца і па-іншаму. Высокі чыноўнік, акажыся ён менш разумным чалавекам ці больш апаслівым, чым той, які вырашаў лёс маёй карціны, адным словам мог паставіць на ёй забаронны крыж.

**— Многія вашы дакументальныя стужкі з цяжкасцю прабіваліся да гледача ў той час, які мы цяпер называем застойным. Аднак жа і фільм «Наказ», прагляд і абмеркаванне якога адбыліся ў адным з цэнтральных кінатэатраў сталіцы ўжо ў 1987 годзе, як мне здаецца, да шырокай публікі амаль што і не дайшоў... У чым тут справа?**

— Скажу пару слоў пра саму стужку. Яна прапануе гледачу пазнаёміцца з вёскай, якая раней лічылася б неперспектыўнай. Падзеі адбываюцца ў вёсцы Вялікае Балота ў той час, калі ў краіне ўжо ідзе перабудова. Сам гэты фільм нараджаўся паралельна з працэсам выспявання новых умоў, развіццём дэмакратызацыі ў краіне, ачышчэннем духоўнай атмасферы ў грамадстве. Кінакамера стала сведкай падзей, што адбываліся на той час у вёсцы, шчырых гутарак з сялянамі, іх развагаў пра сэнс жыцця, пра сваё месца і ролю ў ім. Цікава, што простыя людзі і думалі, і гаварылі ясна, падзяржаўнаму, добра разумеючы, што той парадак спраў, які намаганнямі адміністрацыйна-каманднай сістэмы ўсталяваўся ў вёсцы, вядзе да знявагі чалавека,ператварэння яго ў бязвольнага і абыякавую да ўсяго істоту.

Пераказваць фільм цяжкавата. Глядач бачыць на экране старшыню калгаса — самадура, які давёў гаспадарку да развалу; кабету, якая на схіле дзён прызнаецца, што так і не дачакалася дастатку і радасці ў сваёй хаце; мужа і жонку, апранутых у аднолькавыя чорныя рабочыя ватоўкі і самаробныя валёнкі; сціплы вясковы стол і больш чым сціплую вясковую краму.

Фільм, думаецца, не можа не выклікаць у гледача пачуцця віны перад гэтымі людзьмі, сваімі карміцелямі, якія, зразумела, заслужылі куды лепшага жыцця, перад зямлёй... Мяне можна абвінавачваць, што сучасная вёска ў гэтым фільме паказана ў даволі змрочных фарбах. Маўляў, не ўсе ж такія калгасы... Сапраўды, не ўсе. Але і такіх таксама многа. І не толькі ў нас у Беларусі — па ўсяму Саюзу... Так што няпраўды тут няма. А праўда, як вядома, вочы коле. Не трэба ж саромліва адводзіць іх ад экрана. Лепш пастарацца зрабіць усё магчымае, каб ладу ў нашым жыцці было больш.

**— Юрый Васільевіч, здымаючы такія вострапубліцыстычныя фільмы, як «Наказ», «...А ў полі — вецер», якую ролю вы бераце на сябе — суддзі, маралізатара, бясстраснага інфарматара!**

— Мая роля ў фільме — мастак і грамадзянін. Мая мастакоўская і грамадзянская пазіцыя абумоўлівае выбар самога матэрыялу, тэмы. Я думаю, што галоўная мая задача ў тым, каб абудзіць думку гледача, яго сумленне, яго памяць, яго чалавечую годнасць.

**— Вясковая тэма, як я ведаю, прыносіла вам не адны толькі ўзнагароды на фестывалях, а часта і непрыемнасці, нярэдка абвастрала ўзаемаадносіны з адміністрацыяй студыі, з чыноўнікамі ад культуры. Ды і цяпер, на жаль, не такія фільмы прыцягваюць усеагульную ўвагу. Разграбаючы завалы, наша грамадства мусіла прызнаць, што ў ім існуюць і такія заганы, як наркаманія, прастытуцыя, арганізаваная злачынасць. Цяпер пра гэта здымаецца нямала фільмаў. А вам не хацелася б зрабіць нешта такое антуражнае, відовішчнае, дзе героі і героі ездзяць у шыкоўных аўтамабілях, жывуць лёгка і прыгожа!**

— Такія лёсы і такія драмы мяне не прываблівають. Мая ўвага сканцэнтравана на тым, што ўсім здаецца простым, будзённым. Зямля, чалавек-працаўнік, яго клопаты. А ў гэтым кантэксце я бачу і такія павароты: улада і народ, грамадства і мараль...

**— Як вам працуецца цяпер, калі ў краіне ўсталёўваецца і заваёўвае пазіцыі публічнасць, адкрытасць!**

— Забаронных тэм цяпер і сапраўды не існуе. У беларускім кіно адбы рэарганізацыя, у выніку і значна скараціўся апарат чыноўнікаў. Мастак пазбаўлены ранейшай дробязнай апекі. Любая творчая работа не можа быць ацэнена, а тым больш забаронена неспецыялістамі. Спрэчныя пытанні вырашае фліктная камісія. Гэта пэў. гарантыя ад злоўжыванняў уладай.

У такой маральнай атмасферы наогул добра працуецца і хочацца працаваць.

Умовы для творчасці самыя спрыяльныя. Але не думайце, што публічнасць, шырокая дэмакратызацыя нашага грамадства азначаюць знікненне ўсіх праблем. На ўласным вопыце ведаю, што не так лёгка перабудоўваецца сам чалавек, яго свядомасць. Гэта датычыцца і мяне таксама.

Мы неяк прызвычаіліся рабіць усё з аглядкай, асцярожнічаць. Маўляў, гэта можна, а гэтага нельга. Таму і сядзіць яшчэ ў многіх гэткі самацэнзар. Праілюструю сваю думку. Напрыклад, у час здымак фільма «Наказ» мне, як рэжысёру, давялося гутарыць з многімі калгаснікамі. Вельмі цікава, адкрыта, шчыра пра вясковыя праблемы пачаў гаварыць стары ветэран, цяпер пенсіянер. Пры гэтай гутарцы аказаўся мясцовы старшыня сельсавета, былая даярка. Кожнага разу, як ветэран казаў нешта больш-менш крытычнае, выказваў смелыя думкі, яна чамусьці перапыняла яго і павучальным голасам рабіла заўвагі, што гэта, маўляў, не для кіно. Разумееце? Ёсць праўда для кіно, і ёсць не для кіно. Нездарма ж, гледзячы той ці іншы фільм з прыдуманымі героямі і надуманымі жыццёвымі сітуацыямі, людзі гавораць, што ў ім усё, як у кіно.

Мы ўсё ж знялі гэту сцэну. І вось тут, як ні крыўдна, я павёў сябе не лепшым чынам. І цяпер кусаю локці. Сам па сабе гэты матэрыял мог быць і павінен быў быць выкарыстаны ў фільме. І ён прагучаў бы надзвычай востра, актуальна. Але я проста разгубіўся, змаладушнічаў. Выкінуў запіс гэтай гутаркі.

Адказваючы на ваша пытанне пра тое, як мне працуецца, не хацеў бы ідэалізаваць сітуацыю. Нам, кінадакументалістам, таксама трэба па кроплі выціскаць з сябе раба.



**Мастак-графік Ігар Сямека яшчэ малады. Яго творчая біяграфія кароткая, а работы не набылі яшчэ гучнай славы. Нядаўні выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (аддзялення станковай графікі), ён прыйшоў у мастацтва не толькі бліскуча валодаючы мовай графікі, але і са сваім поглядам на свет. Аб гэтым гавораць цёплы, лірычны цыкл «Успаміны пра вёску», у які ўвайшлі работы «Вячэрнія цені», «Ляшчовы плёс», «Востраў» і іншыя, поўныя святла і паветра. Зусім іншы настрой стварае серыя «Ідалы», у якой малады мастак праводзіць паралелі паміж кленчаннем перад Хрыстом і абагаўленнем Сталіна. Спрабуе свае сілы Ігар Сямека і ў манументальным мастацтве. І ўжо першыя яго спробы былі высока ацэнены спецыялістамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак-графік І. СЯМЕКА; работа «Ляшчовы плёс».**



**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## З АДЭСЫ— ПЕРАМОЖЦАМІ

Два музыканты з Беларусі— Генадзь Гурэвіч і Міхаіл Гяршовіч адправіліся ў Адэсу на ўсесаюзны конкурс скрыпачоў, прысвечаны Д. Ойстраху, і абодва вярнуліся лаўрэатамі.

Складаная праграма спаборніцтваў, што ўключала вялікую колькасць санат для скрыпкі і фартэпіяна, на якіх правяраецца сталасць музыканта, ставіла перад канкурсантамі найцяжэйшыя задачы.

Журы конкурсу пад старшынствам народнага артыста РСФСР Ігара Ойстраха прысудзіла другую прэмію студэнту III курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. Луначарскага Г. Гурэвічу, вучню прафесара Вольгі Пархоменкі. Яго талент праявіўся ў раннім узросце, юны скрыпач перамагаў на розных дзіцячых конкурсах. І вось цяпер ён — першы з выхаванцаў беларускай скрыпічнай школы, які атрымаў званне лаўрэата ўсесаюзнага конкурсу. Трэцяя прэмія ў саліста Беларускай дзяржаўнай філармоніі М. Гяршовіча. Прозвішча знаёмае, бо Міхаіл — са «скрыпічнай дынастыі». Яго бацькі доўгія гады працуюць у Дзяржаўным сімфанічным аркестры БССР, удзельнікі струннага квартэта Саюза кампазітараў БССР.

## АПЛАТА ПА ЯКАСЦІ І ІНТЭНСІЎНАСЦІ ПРАЦЫ

# МАСТАЦКАЯ КУЛЬТУРА ДЛЯ СПАЖЫЎЦА

З 1989 года ўсё савецкае кнігавыдавецтва пераходзіць на гаспадарчы разлік. Як заявіў старшыня Дзяржкамвыда СССР Міхаіл Нянашаў, «без пераходу на поўны гасразлік няма і не можа быць сапраўднай самастойнасці выдавецтваў у вырашэнні ўсіх творчых пытанняў».

Праўда, шэраг літаратараў лічыць, што незалежнасць выдавецтваў прывядзе іх да злоўжывання ўладай, што кніга стане ацэньвацца не па мастацкіх вартасцях, а па погляду на аўтара—«свой» ці «чужы».

Думаецца, што апаскі гэтыя перабольшаны. Менавіта новая мадэль гаспадарання павінна пакласці канец падобнаму самавольству. Яна паставіць выдаўца ў залежнасць ад рэалізацыі яго прадукцыі. Яму будзе нявыгадна выдаваць літаратурную халтуру і выгадна выпускаць патрэбныя чытачу, цікавыя кнігі. Рэформа ў кнігавыдавецтве—гэта заслон перад «шэрай» літаратурай, хто б яе ні выдаваў — «свой» ці «чужы».

Што ж датычыць кааператыўных выдавецтваў, то іх стварэнне прызнана на сёння немэтазгодным. Пры адсутнасці вопыту гэта прывяло б да камерцыйнай стыхіі (як здарылася, у прыватнасці, у КНР). На думку спецыялістаў, больш разумна ўдасканальваць пакуль практыку выдання кніг аўтарамі «за свой кошт». Такі пункт гледжання і кіраўніцтва Дзяржкамвыда СССР.

З рэформай у кнігавыдавецтве пераклікаецца і стварэнне першага ў СССР літаратурна-тэатральнага агенцтва. Яно бярэцца ў сціслыя тэрміны арганізоўваць кваліфікаваныя водгукі на прадстаўленую літаратурную прадукцыю ад усіх грамадзян. Можна нават заказаць рэцэнзію канкрэтнаму крытыку, паэту ці празаіку. У выпадку прызнання работы канкурэнтаздольнай агенцтва бярэцца прапаноўваць яе часопісам, выдавецтвам, тэатрам, кінастудыям—не толькі савецкім, але і замежным.

Перабудовачныя эканамічныя працэсы, што праходзяць у краіне, не могуць не закрануць і мастацтва. Сёння зусім недапушчальная сістэма, калі мастак атрымлівае ганарары за карціну, якую ў яго купляе творчы саюз і хавае ў сваіх фондах—таму што карціна гэта нікому не патрэбна. Калі фільм ідзе пры пустой зале, а рэжысёр і яго каманда, якія стварылі гэты опус, атрымліваюць павышаны ганарар. Абсурдна, што чым горш працуе тэатр, тым больш ён атрымлівае грошай у выглядзе датацыі ад дзяржавы...

Пераход на гасразлік у прымяненні да мастацтва прадугледжвае ўстанаўленне роўнасці магчымасцей, прынцыпу спаборніцтва і публічнасці, уліку думак чытачоў і гледачоў.

Якраз на гэта нацэлена рэформа кінематографа, якая праходзіць цяпер. Яна намячае паўсямесны пераход ад адміністрацыйных метадаў кіравання кінапрацэсам да эканамічных, творчую і гаспадарчую самастойнасць студый, іх адказнасць за сваю прадукцыю. Мяняюцца структуры Саюза кінематаграфістаў. Ліквідуюцца творчыя секцыі. Замест іх утвараюцца гільдыі: акцёраў, сцэнарыстаў, рэжысёраў, аператараў, арганізатараў кінавытворчасці. Стварэнне гільдый, на думку кіраўніцтва СК СССР,—сродак развязаць вузел прафесійных праблем, запусціць механізм самакіравання.

Перабудова ў кінематографе праходзіць не гладка. Сутыкаюцца ідэі і пазіцыі. «Сутнасць драмы,—лічыць сакратар праўлення СК СССР Валянцін Таўстых,—у аб'ектыўнай патрэбе перабудовы і негатоўнасці суб'екта (на ўсіх узроўнях) яе ажыццявіць, рэалізаваць на справе. Усё аказалася больш складана, чым можна было ўявіць».

Тым не менш новая мадэль кінематографа ўдасканальваецца. Галоўнае, што кіно сёння жыве клопатамі грамадства, не ўхіляецца ад складаных, злабадзённых праблем.

Духу пераўтварэнняў адпавядае і тэатральная рэформа, што дае сцэнічным калектывам свабоду не толькі ў творчых, але і арганізацыйных, фінансавых пытаннях. Гасразлік у тэатры, вядома, не панацэя ад усіх бед, але ён намнога больш эфектыўны, чым камандна-адміністрацыйны стыль кіраўніцтва. Вядомы драматург Аляксандр Гельман лічыць, напрыклад, што павінны існаваць розныя формы—поўная самаакупнасць, частковая самаакупнасць, поўная і няпоўная датацыі. Ва ўсякім разе, бясспрэчна, без дапамогі дзяржавы тэатру цяжка развівацца творча. Але дапамога дапаможа розніца. Ураўнілаўкі ў мастацтве больш не павінна быць. Як падкрэслівае начальнік упраўлення тэатраў Міністэрства культуры СССР Вадзім Дзёмін, «трэба распаўсюдзіць на тэатр сацыялістычны прынцып аплаты па працы: па якасці і інтэнсіўнасці тэатральнай работы».

Гасразлік актыўна ўваходзіць і ў канцэртную дзейнасць. Апрача дзяржаўных філармоній, тут дзейнічаюць шматлікія кааператывы. Прычым многія «касавыя» выканаўцы аддаюць перавагу выступленням па запрашэнню кааператываў—тут значна вышэйшая аплата. На эстрадзе гасразлік усталёўваецца, відаць, трывала, але вось перавод на гасразлік акадэмічных жанраў выклікае спрэчкі.

Дэмакратычныя перамены закранулі, хаця і ў рознай ступені, у розных рэгіёнах краіны дзейнасць мастакоў, архітэктараў, кампазітараў, дызайнераў. Пачынае фарміравацца становішча, калі мастацкая культура не на словах, а на справе паварочваецца да свайго спажыўца, больш поўна ўлічвае яго густы і пажаданні.

Вядома, гэтыя перамены сустракаюць і процідзеянне. У шэрагу месцаў рэформы проста буксуюць. Яны палохаюць не толькі чыноўнікаў ад мастацтва, але і тых мастакоў, якія прывыклі да ўраўнілаўкі і адвыклі ад спаборніцтва. І ўсё ж пераўтварэнні ажыццяўляюцца—няхай марудна, але няўхільна.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## НА МОВАХ СВЕТУ




У канцы 1987 года лейпцыгскае выдавецтва «Філіп Рэклам» выпусціла ў серыі «Універсальная бібліятэка» зборнік класічных беларускіх апавяданняў «Малады дубок». У выдавецкіх даных пазначана: «Падрыхтаваў выданне Норберт Рандаў». За гэтымі сціплымі радкамі стаіць не толькі тое, што ён склаў кнігу, напісаў прадмову, даведкі пра аўтараў, але і не менш важнае — ідэя выдання кнігі. Каб прыйсці да гэтай ідэі, трэба было набыць багата ведаў па беларусазнаўству і можа не менш укласці сіл і здольнасцей у пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на нямецкую мову. У выніку ў 1971 годзе з'явілася ўкладзеная нашым сябрам анталогія на нямецкай мове «Буслы над балотамі» (да працы над якой былі падключаны і іншыя перакладчыкі). Апавяданні М. Багдановіча, А. Гаруна, М. Гарэцкага, К. Каганца, М. Чарота, Ядвігіна Ш.— такі першапачатковы «паслужны» спісак перакладчыка. Затым былі аповесці В. Быкава «Абеліск», «Здрада», А. Кудраўца «Раданіца», перакладзеныя разам з Гундулай і Уладзімірам Чапегамі. І вось цяпер новая анталогія, у якую ўключаны апавяданні 1905—1930-х гадоў: Ядвігін Ш.— «Чалавек», «Сабачча служба», «Гаротная», «При исполнении служебных обязанностей», Якуб Колас — «Недаступны», «Малады дубок», «Хаім Рыбс», «Балаховец», Змітрок Бядуля — «Тата» («Шалёны), «Летапісцы», «Лявоніха і Сымоніха», «Сорам» («Сярод ночы»), Цішка Гартны — «Здарэнне з камісарамі», Максім Гарэцкі — «Роднае карэнне», «Рускі», «Чарнічка», Андрэй Мрый — «Камандзір», Кузьма Чорны — «Хвоі гавораць», «Трагедыя майго настаўніка», «Макаркавых Волька», Міхась Зарэцкі—«42 дакументы», «Максімаліст», «Ракавыя жаронцы», Платон Галавач — «Кнак», Лукаш Калюга — «Трахім — штучны чалавек», «Цеснаватая куртачка», «Вам знаёмае», Ян Скрыган — «Таіса», «У Кірылы на хутары». Своеасаблівым запевам да кнігі гучаць змешчаныя на яе пачатку беларуская народная казка «Дудар» у апрацоўцы Якуба Коласа і імпрэсія Яна Скрыгана «Памяць зямлі».

Расказаў вось пра змест і зноў жа падумаў: колькі трэба было прачытаць прозы, каб адабраць тое, што ўвайшло ў кнігу, колькі ўкладзена тут працы. А Рандаў не любіць ісці па пратаптанай дарожцы, ён кожны раз імкнецца зрабіць «сваю» кнігу, «сваю» анталогію. Мы прывыклі, што звычайна ўкладальнікі ў анталагічных выданнях даюць твор і невялічкую нататку пра аўтара. На гэты раз у анталогіі Рандава амаль кожнаму аўтару папярэднічае кароткае, эмацыянальнае слова, я сказаў бы, эцюд нашага майстра навелы Яна Скрыгана, папярэднічае тым празаікам, з кім ён бачыўся, знаўся... У дачыненні да астатніх аўтараў зборніка Рандаў звярнуўся да іншых крыніц. Так, да Андрэя Мрыя ён узяў урывак з успамінаў Заіра Азгура, да Ядвігіна Ш. скарыстаў некралог Палуты Бадуновай пра пісьменніка. Усе гэтыя матэрыялы не толькі пашыраюць гарызонты кнігі, яны робяць яе больш значнай, цікавай. Дарэчы, вяртанне твораў Андрэя Мрыя ў нас адбылося на год пазней, чым знаёмства з яго творчасцю ў ГДР. А апавяданне Алеся Гаруна «Пан Шабуневіч», якое ў нас да гэтага часу не перадрукоўвалася, было ўключана Рандавым у анталогію «Буслы над балотамі». З боку нямецкага калегі не наўмысны, але папрок нам.

Яшчэ адно ўражанне ад гэтага выдання, як чытача. Я не асабліва прымаю замежныя анталогіі агульнага характару, у якіх кожны аўтар прадстаўлены адным творам, яны не даюць уяўлення пра творчую індывідуальнасць мастака. Іншая справа, калі такія анталагічныя зборнікі прысвячаюцца пэўнай тэме або творам пэўнага перыяду. З цікавасцю чытаеш анталогіі агульнага характару роднай прозы ці паэзіі, бо ты маеш пэўнае ўяўленне пра творчасць пісьменніка і тады ўзнікаюць розныя думкі, асацыяцыі, настрой. Наш сябар уключыў у сваю анталогію адзінаццаць празаікаў, і амаль кожны з іх прадстаўлены некалькімі творамі. Прачытаўшы апавяданні, даведку і ўспамін, нямецкі чытач, мне здаецца, зможа ўявіць творчы мініпартрэт кожнага аўтара гэтай анталогіі.

Такое першае ўражанне выклікала ў мяне знаёмства з анталогіяй, атрыманай з Берліна. Застаецца дадаць, што з Норбертам Рандавым над перакладамі твораў беларускіх пісьменнікаў працавалі таксама Міхаіл Дэвеў, Карл Гутшміт, Хармут Хэрбот, Ірыс Лорэнц, Клаус Мюллер, Гундула і Уладзімір Чапегі, Ігар Чапега, Эрхард Вайнхолец.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

## УРАЖАННІ З ТУРЫСТЫЧНАЙ ПАЕЗДКІ

# МЫ СПЯВАЛІ Ў ГДР

Харавая капэла Акадэміі навук БССР кожны год выступае з канцэртамі за межамі нашай рэспублікі. Летась калектыў пабываў у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы.

Мы знаёміліся са славутасцямі і маляўнічым наваколлем гарадоў, якія наведвалі, з іх архітэктурнымі помнікамі і музеямі, а таксама выступалі з канцэртамі.

У Дрэздэне яркія ўражанні засталіся ад наведання старажытнага архітэктурнага комплексу «Цвінгер» з Дрэздэнскай карціннай галерэяй. У Саксонскай Швейцарыі (на ўсходнім поўдні ГДР) калектыў наведаў крэпасць-музей «Кёнігштайн» (XIII стагоддзе), адкуль адкрываецца выдатная панарама пойменнай даліны ракі Эльбы, гор, што параслі лясамі. У ніжняй зале сабора Магдаліны (XV стагоддзе) харавая капэла выканала на нямецкай мове некалькі твораў І.-С. Баха, В. А. Моцарта, Ф. Шуберта і айчынных кампазітараў XVII—XIX стагоддзяў.

Патсдам і Мінск—гарады-пабрацімы. Тут адбылася афіцыйная сустрэча нашай групы з прадстаўнікамі грамадскасці горада. Мы пабывалі ў гасцях у выкладчыкаў і студэнтаў Патсдамскай вышэйшай педагагічнай школы. Спачатку гаспадары расказалі нам аб сваёй вышэйшай навучальнай установе, аб сваіх поспехах і праблемах, якія аказаліся ў многім падобнымі да праблем нашай вышэйшай школы. Некаторыя вучэбныя аўдыторыі і інтэрнаты размешчаны ў карпусах аднаго з палацаў парку Сан-сусі. Тут жа, ва ўтульным студэнцкім кафэ, працягвалася наша сяброўская сустрэча — песні, вершы, танцы, абмен думкамі і адрасамі. Студэнты нядрэнна гаварылі па-руску і паказалі нам невялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці. У выступленнях нашы салісты і харавая капэла выканалі лепшыя нумары сваёй канцэртнай праграмы.

Усе ўдзельнікі сустрэчы згадзіліся са словамі прафесара Вышэйшай школы доктара Вальтэра Віта, што «падобныя кантакты прадстаўнікоў нашых краін дапамагаюць лепш даведацца адзін пра аднаго і, галоўнае, умацоўваюць нашу дружбу».

У нашы ўспаміны, несумненна, увойдзе і сустрэча са студэнцкім хорам з музычнага вучылішча польскага горада Зялёна Гура. Пад шатамі вялікага платана на востраве Дружбы некалькі гадзін гучала то харавая класіка, то народная руская, беларуская, польская харавая музыка.

Першая паездка харавой капэлы АН БССР за межы нашай краіны была турыстычнай, але мы рады, што нам удалося падзяліцца сваімі песнямі з новымі замежнымі сябрамі і паказаць ім, па сіле нашых магчымасцей, багацце многанацыянальнай музычнай песеннай культуры Савецкай краіны.



**Аляксандр КУРСКОЎ.**

## ВЫПУШЧАНА БЕЛАРУСКІМІ ВЫДАВЕЦТВАМІ

**У пачатку сямідзесятых гадоў грамадскасць Магілёва была занята пошукам у сваім горадзе або яго наваколлі старога будынка, які б адпавядаў пэўным патрабаванням. Справа ў тым, што тады ствараўся першы ў Беларусі музей, прысвечаны жыццю і творчасці майстра выяўленчага мастацтва народнага мастака БССР і РСФСР, акадэміка жывапісу, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, стагоддзе з дня нараджэння якога адзначалася ў 1972 годзе. Ён нарадзіўся на Магілёўшчыне, у вёсцы Крынкі, што недалёка ад Бялыніч. Але яго дом не захаваўся, і для музея быў падабраны двухпавярховы цагляны асабняк з мансардай — помнік грамадзянскай архітэктуры XVII стагоддзя, што размешчаны ў старой архітэктурнай зоне горада.**

**Альбом «Музей В. Бялыніцкага-Бірулі», выпушчаны ў 1988 годзе выдавецтвам «Беларусь», — аб экспазіцыях. У ім два раздзелы. У першым — артыкул беларускага мастацтвазнаўцы Ю. Карачуна пра творчы шлях мастака, пра матэрыялы музея. Артыкул ілюстраваны фатаграфіямі В. Бялыніцкага-Бірулі, блізкіх яму людзей, дакументаў, інтэр'ераў музея. Добрая якасць адлюстравання дазваляе ўбачыць рэчы, якімі карыстаўся мастак, разгледзець асаблівасці вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, мэблі, якая была выраблена ў Абрамцаўскай майстэрні і якая мае немалую мастацкую каштоўнасць.**




**У другім раздзеле альбома — рэпрадукцыі 87 палотнаў В. Бялыніцкага-Бірулі, якія ёсць у музеі. Прадстаўлены ўсе перыяды творчага шляху мастака, пачынаючы з яго першых вядомых работ, створаных ў канцы мінулага стагоддзя ў гады яго вучобы ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства, да сярэдзіны нашага стагоддзя. Сярод работ—тыя, што атрымалі шырокае прызнанне: «Сакавіцкае змярканне», «Квітнеючы сад», «Зімовы пейзаж», «Ціхая светлая ноч», «Час цішыні. Возера Удомля», «Архангельская вобл. Ратанавалок. Старая царква»... На палотнах: талы снег, бераг возера, бярозы ці вербы на беразе ручая, квітнеючы бэз, палі з блакітным ільном... Але яны прыварожваюць, зачароўваюць.**

**Альбом падрыхтаваны на беларускай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах.**

**Л. ЭТЭНКА.**

## ЗІМОВЫ САД

*Музыка С. БЕЛЬЦЮКОВА Словы Р. БАРАДУЛІНА*

**А снегапад напаў на сад.
Віднее на дварэ.
Хто сівізну маю назад
З вясною забярэ! 2 р.**

**Прыпеў:**

**Сняжок засведчыць, малады,
Што светла ўсё было.
Не май бяды —
Мае сляды
Завеяй замяло... 2 р.**

**Святлею, як зімовы сад.
Вясновым быць не мне.
Іду, ўзімелы, наўпапад
Па белай цаліне. 2 р.**

**Прыпеў.**

**А сад не ўзварухне галін,
Я сум не ўзварушу.
Хоць ласкай апячы ўспамін,
Як некалі душу!**

**Прыпеў.**




## ПРА ТОЕ, ЧАГО ПАКУЛЬ... НЯМА

# ПАРК ЗАБАЎ І АДПАЧЫНКУ

Упершыню ў нашай краіне аб'яўлены ўсесаюзны конкурс на лепшае эскіз-рашэнне тэматычнага парку забаў, будаўніцтва якога пачнецца ў 1990 годзе ў наваколлі пасёлка Ракаў Мінскага раёна.

Кароткае інтэрв'ю з галоўным інспектарам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры БССР Нінай Ходар.

— Якая мэта стварэння гэтай зоны?

— Мы прапаноўваем прынцыпова новую сістэму арганізацыі адпачынку на падставе вывучэння багатага вопыту многіх замежных краін.

— Своеасаблівы дыснейленд?

— Не зусім так. Зона цудаў і забаў—гэта толькі частка ўсяго комплексу.

— Пачатак будаўніцтва вядомы, а калі яно завершыцца?

— Адкажу словамі вядомага Уолта Дыснея: «Пасля пачатку работы над аб'ектам яна не павінна канчацца да таго часу, пакуль у свеце існуе фантазія».

Што ж, пафантазіруем, паколькі нічога падобнага ў нашай краіне да сёння не бывалася. Дык вось, уявім...

Маляўнічую мясцовасць у лукавіне ракі Іслач паступова запоўняць аазісы казачнай, фантастычнай цывілізацыі. З часам яны ўтвораць сістэму тэматычных зон.

Умоўна пазначым іх. Вось, напрыклад, культурная зона. Тут будуць створаны канцэртныя, выставачныя залы для ўсіх жадаючых паказаць свае таленты, з'явяцца відэасалоны, кінатэатры, пляцоўка для арганізацыі шоу, аўкцыёнаў, конкурсаў, а таксама залы для дэманстрацыі мод, «залы сенсацый».

Можна будзе пазнаёміцца з гісторыяй агульначалавечай культуры. Пры гэтым займальнасць — асноўная якасць усіх мяркуемых культурных праграм.

Нацыянальныя народныя атракцыёны і атракцыёны луна-паркаў размесцяцца ў другой зоне. Будуць тут горы для катання, каруселі, ілюзіён, пасткі, сакрэты, сюрпрызы. Большая іх частка размесціцца пад дахам.

Самыя папулярныя за мяжой тэматычныя атракцыёны: «Замак з прывідамі», «Бурныя рэкі», «Падарожжа ў марскіх глыбінях», іншыя могуць быць і ў гэтай «краіне цудаў», па меншай меры— нешта падобнае. Героі народных паданняў і казак, літаратурныя героі, персанажы кіно, мультфільмаў, ажыўленыя электронікай, насяляць гэтую краіну. Дарослых і дзяцей чакаюць і «небяспечныя» сустрэчы з дагістарычнымі жывёлінамі-робатамі.

Для аматараў спартыўных гульняў будуць пабудаваны пляцоўкі, кегельбан, картадром, тэнісныя корты, вальеры для коннай язды. Жадаючыя змогуць паглядзець скачкі, гонкі, спаборніцтвы мадэлістаў, малышы—запусціць паветранага змея, дарослыя—здзейсніць палёт на паветраным шары.

Не музейная дакладнасць, а пазнавальнасць—галоўнае ў зоне гісторыі. У «горадзе майстроў» пасяляцца ганчары, шкловыдзімальшчыкі, ювеліры, ткачы. Яны будуць прапаноўваць наведвальнікам свае вырабы.

У зоабатанічнай зоне, вядома ж,—заапарк. Будуць створаны куткі са штучным кліматам, музеі грыбоў, лекавых раслін, рэдкіх жывёл, выстаўкі кветак, пеўчых птушак.

Зона адпачынку, якая размесціцца прыкладна за 35 кіламетраў ад горада і зойме 5—10 тысяч гектараў, змажа штодзённа прымаць 40—50 тысяч наведвальнікаў. З Мінскам гэты грандыёзны парк звяжа тралейбусная лінія і монарэйкавая чыгунка.

Непадалёку ад парку будуць пабудаваны санаторыі, Дамы адпачынку, кэмпінгі, гасцініцы, піянерскія лагеры. Можна будзе атрымаць нумар у фургончыку і ўстанавіць яго ў тым кутку парку, які спадабаецца. У невялікіх кафэ, барах накормяць хутка і смачна. Магазіны, крамы, рынкі, універмагі абслужаць усіх жадаючых.

Так можна ўявіць вобраз будучага парку.

У аргкамітэт конкурсу хутка пачнуць паступаць на разгляд першыя праекты. Аб праектах-пераможцах мы яшчэ раскажам вам.

**Таіса ХАРТАНОВІЧ.**

## ЛЕС, ПАДОРАНЫ ПАЭТАМ

Надзвычай хутка падняўся на крутым беразе Прыпяці паблізу палескай вёскі Макарычы малады лес. Жыхары горада Петрыкава і суседніх вёсак падтрымалі добрую ініцыятыву вядомага савецкага паэта Ігара Шклярэўскага, які пералічыў асабістыя зберажэнні на вырошчванне лесу, і пасадзілі на дзевяці гектарах дубкі, бярозы, сосны, рабіны, а бліжэй да вады — ніцыя вербы.

— Месца для маладога лесу выбраў сам Ігар Іванавіч, — расказвае галоўны ляснічы Петрыкаўскага лясгаса Уладзімір Турмовіч. — Паэт бываў у нашых мясцінах, бачыў, як усё цяжэй становіцца аберагаць зялёнага сябра ад уздзеяння экалагічнага асяроддзя. Вялікую шкоду лясам Гомельшчыны нанесла аварыя на Чарнобыльскай АЭС.

Зашумяць вясной маладыя дрэвы. Стане лес над Прыпяццю сімвалам чалавечай дабраты і бескарыслівасці.

**В. КОТАЎ.**

## ГУМАР

*— Чым растлумачыць, што на гэты раз ты правільна выканаў хатняе заданне? — здзіўлена пытаецца настаўнік у маленькага Оге.*

*— Тата паехаў па справах...*

***

*Двухпавярховы аўтобус наляцеў на ліхтарны слуп.*

*— Як гэта атрымалася? — пытаецца палісмен у шафёра.*

*— А я правяраў білеты на другім паверсе...*

***

*— Што здарылася з тваім тварам?*

*— У яго трапіла лятаючая талерка.*

*— Лятаючая талерка? Адкуль жа яна ўзялася?!*

*— Уяўлення не маю, дзе жонка іх купляе...*

***

*Да карчмы падыходзіць госць. Карчмар здалёк вітае яго:*

*— Добры дзень, Мікалаю! Вас тут пыталася нейкая жанчына.*

*— А хто ж такая?*

*— Ці ж я ведаю?*

*— Заікалася, можа?*

*— Але!*

*— Малая, крывыя абцасы?*

*— Але!*

*— Такая задрыпаная?*

*— Ага, ага.*

*— І лаялася?*

*— Ага.*

*— Гэта, пэўна, мая жонка.*

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 19